


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 15 (222) КАСТРЫЧНІК 2016 ГОДА

**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫКАЗКА**
*Што купіць, тое дарага, а што прадаць, тое танна*

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## З ЧАСОЎ «ДАЖЫНАК» ЗАСТАЮЦЦА НЕДАРОБКІ

**Па вуліцы Гагарына камунальнікі працягваюць добраўпарадкаванне дамоў, але недаробкі дарожнікаў так і застаюцца трэцці год не ліквідаванымі.**

У час падрыхтоўкі да «Дажынак — 2014» была праведзена вялікая праца па добраўпарадкаванню мікрараёна вуліцы Гагарына. Гэта праца працягвалася і працягваецца і пасля «Дажынак», як на пачатку вуліцы так і напрыканцы. Так на сёння яшчэ працягваецца добраўпарадкаванне дамоў 34 і 34-А, што прадугледжана планам капітальнага рамонта дамоў.

Але для жыхароў дамоў 14-22 па вул. Гагарына, якія знаходзяцца каля ўніверсама, па восені і вясне адчувальны недаробак дарожнікаў, якія недасфальтавалі каля 10 квадратных метраў дарогі да крамы. Хутчэй за ўсё інспекцыя ў час перад «Дажынкамі» падпісала акт прыёмкі працы па асфальтаванню ў поўным аб'еме пад «чэснае» слова дарожнікаў завяршыць недаробку каля дома № 20.

Толькі вось ужо пайшоў трэцці год пасля абласнога свята, а дарожнікі не спяшаюцца ліквідаваць недаробку. Жыхарам жа мікрараёна застаецца мерыць лужы на дарозе пасля дажджоў або звяртацца са скаргай да ўладаў, каб абавязалі дарожнікаў ліквідаваць «дажынкаўскую» недапрацоўку.

**Л. Антонаў**

НАШ ГАНДАЛЬ

## «КАРАВАЙ» ПЕРАЗІМУЕ БЕЗ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ…

**Пры скарачэнні дня крама «Каравай» Віцебскага камбіната хлебапрадуктаў, якая размешчана на вул. Галіцкага, працягвае працаваць ужо ў цемры, бо даўгі за электрычнасць не ліквідаваны**

Адключэнне электрачнасці ў краме «Каравай» па вул. Галіцкага энергетыкі зрабілі напрыканцы вясны, калі спажыўцы камбікармоў перасталі разлічвацца за набыты тавар.

З таго часу крама працуе толькі за наяўны разлік, што канешне парушае адпаведныя нарматыўныя акты Рэспублікі Беларусь. На працягу апошніх месяцаў асартымент крамы істотна зменшыўся, але віцебскі хлеб, камбікармы і іншую прадукцыю Віцебскага хлебакамбіната за наяўны разлік тут магчыма набыць і зараз.

Праўда жаданне ісці ў краму, дзе няма святла восеньскім вечарам няма.

Крыўдна, што менавіта ў Гарадку існуе такая вялікая запазычанасць за набытыя камбікармы. Бо ў іншых крамах Віцебскага камбіната хлебапрадуктаў у Віцебску, Ноўцы ды і ў Бешанковічах такой праблемы няма. Там неплацежаздольным пакупнікам камбікармы ўдоўг не адпускаюць. Або там мусіць менш прынцыповыя энергетыкі, якія электрычнасць не адключаюць.

Зараз у краму падалі ацяпленне, а пры электрычнасць па ранейшаму гаворкі няма. Мусіць «Каравай» будзе працаваць толькі тады, калі на вуліцы будзе свята або пры ліхтарыках гандляроў...

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ІНВЕСТЫЦЫІ

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ СА СПАЗНЕННЕМ НА СЕМ МЕСЯЦАЎ

**Рэканструкцыя былой сталовай пад краму «Еўраопта» са спазненнем на сем месяцаў выйшла на фінішную прамую. У сярэдзіны жніўня мы пісалі, што рэканструкцыя сталовай у Гарадку павінна завяршыцца да 1 кастрычніка. Але мы памыліліся на ... сем месяцаў.**

Пасля нашай публікацыі «Рэканструкцыя былой сталовай пад краму „Еўраопта“ ў Гарадку павінна завяршыцца да 1 кастрычніка» ў пашпарце аб'екта па рэканструкцыі былой рамзаводскай сталовай адбыліся змены ў даце завяршэння рэканструкцыі. Замест стэнда, дзе рукой была пазначана дата завяршэння аб'екта 1 кастрычніка, з'явіўся стэнд з датай завяршэння рэканструкцыі — 29.. лютага 2016 г. І фактычна аказваецца рэканструкцыю трэба было правесці за шэсць тыдняў: з 16.01 па 29. 02 2016 г.

Між тым толькі ў сярэдзіне кастрычніка будаўнікі выйшлі на фініш рэканструкцыі сталовай. На гэтым тыдні дарожнікі ўклалі першы слой асфальта, а зараз з дапамогай асфальтаўкладчыка кладуць другі слой.

Цяпер складана разлічваць, што праз два тыдні новая крама пачне сваю працу. Гэта мусіць будзе ў сярэдзіне лістапада ці напачатку снежня. Але відавочны намер гаспадароў аб'екта адладзіць працу крамы да калядных вакацый.

**Л. Антонаў**

КРЫМІНАЛ

## ЖЫХАР ГАРАДКА МАЕ ДАЧЫНЕННЕ ДА ЗАБОЙСТВА

**Труп віцебскага бізмесмена знайшлі ў Шумілінскім раёне, але яго аўтамабіль і асабовыя рэчы разам з прыладай забойства знайшлі ў гаражным кааператыве «Гагарынец» на тэрыторыі г. Гарадка.**

Цела мужчыны з колатарэзанымі ранамі знайшлі ў кустах на абочыне дарогі побач з вёскай Хрыпкі Шумілінскага раёна, паведамляе ўпраўленне СК па рэгіёне.

Следчыя высветлілі асобу забітага — гэта 33-гадовы жыхар Віцебска, намеснік дырэктара адной з фірмаў горада. Напярэдадні вечарам ён паехаў на сваёй BMW X5 ў Гарадок, каб купіць нерухомасць як прыватная асоба. Дадому мужчына не вярнуўся, і сваякі звярнуліся ў міліцыю.

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрыманы 34-гадовы, несудзімы жыхар Гарадка. З ім працуюць следчыя. Падазроны быў непасрэдна датычны да заключэння здзелкі, паведамляе БЕЛТА са спасылкай на начальніка УСК па вобласці Уладзіміра Шалухіна.

Знайшлі і аўтамабіль загінулага — ён знаходзіўся ў гаражным кааператыве Гарадка. Замест сапраўдных нумароў на машыне былі транзітныя нумары Расійскай Федэрацыі. У гаражы таксама выявілі сапраўдныя нумарныя знакі, асабістыя рэчы забітага, залатыя ўпрыгажэнні, дакументы, прыладу злачынства — штык-нож.

Нагадаем таксама, што 26 верасня ў Беразіно Мінскай вобласці ў абгарэлай машыне знайшлі цела мясцовага бізнэсмэна. Паводле неафіцыйнай версіі, ён быў забіты з агнястрэльнай зброі.

**Л. Антонаў**

СУД

## БАНКРОТСТВО

**Экономический суд области признал банкротом ОАО «Городокский райагропромснаб» и открыл в отношении должника ликвидационное производство, сообщил судья Эрик Багдасаров. Без работы на нем окажется около 150 человек**

Решение приняли на основании постановления собрания кредиторов, которое утверждает план ликвидации акционерного общества. Как свидетельствует анализ финансового состояния предприятия, оно является неплатежеспособным, при этом неплатежеспособность приобретает устойчивый характер.

Общая сумма кредиторской задолженности превышает 7,2 млн рублей. Срок ликвидации установлен по август 2017 года.

За 7 месяцев этого года предприятие сработало с чистым убытком в 128 тыс рублей. В 2015 году оно привлекло 495 тыс. рублей инвестиций в основной капитал, с начала текущего года показатель составил около 170 тысяч, — рассказал антикризисный управляющий предприятия Леонид Михайлов.

Однако довод управляющего о возможности оздоровления предприятия суд посчитал необоснованным, так как анализ предоставленного плана санации свидетельствует о невозможности расчета с кредиторами в жесткие сроки, предусмотренные законодательством для этой процедуры. Тем более что должник продолжает производить убытки.

Конкурсные кредиторы отклонили план санации и утвердили план ликвидации должника.

ОАО «Городокский райагропромснаб» создали в 2001 году путем преобразования районного предприятия по материально-техническому снабжению агропромышленного комплекса. Предприятие специализируется на производстве сельскохозяйственной продукции: молоко, мясо, зерно, технические и кормовые культуры. На нем работают около 150 человек.

**БЕЛТА**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАВІНЫ ЎШУ

# «НЕФРЫТ» ГОДНА ВЫСТУПІЎ НА РЭСПУБЛІКАНСКІМ ТУРНІРЫ

**21-23 кастрычніка ў Мінску адбыўся рэспубліканскі турнір па ўшу ў катэгорыя таолу і саньда, на якім каманда Віцебскай вобласці з удзелам прадстаўнікоў «Нефрыта» заваявала Кубак па ўшу.**

Рэспубліканскі турнір ушу для юнакоў і юніёраў прайшоў у Мінску з удзелам аматараў гэтага ўсходняга адзінаборства з усёй краіны.

Спачатку адбыліся спаборніцтвы па ўшу таолу ў практыкаваннях з кароткай зброяй, доўгай і без зброі. У юнацкім узросце Сідорская Даша атрымала 1 месца ў кароткай зброі, Карнілаў Максім 2 месца ў кароткім і 3 месца ў доўгім відах зброі. На турніры юніёраў ва ўзросце 16-17 гадоў Міралюбаў Ілля заняў 1 месца ў кулаку і кароткай зброі, а таксама 2 месца ў доўгай зброі, Казлоў Мікіта атрымаў 1 месца ў доўгай зброі і 2-е месца ў кулаку і кароткай зброі. Кубак Рэспублікі Беларусь сярод дарослых прынёс наступныя вынікі: Шчарбакоў Ягор — 1 места ў кулаку і доўгай зброі, 2-е месца ў кароткай зброі, а Тарасаў Аляксей атрымаў 1 месца ў кароткай зброі і 3-е месца ў кулаку.

У нядзею 23 кастрычніка рэспубліканскі турнір па ўшу-саньда прынёс добрыя вынікі. Сярод юнакоў да 52 кг Хабакоў Улад стаў 1-м, да 56 кг Васільеў Яўген стаў 2-м (па выніках бою суддзі зафіксавалі нічыйны вынік і лёс першага месца вырашыла вага, Жэня апынуўся цяжэйшым). Сярод юніёраў Сінчук Карым заняў 2-месца не гледзячы на тое, што выступаў на катэгорыю вышэй. Усяго ў саньда ўдзельнічала 28 юнакоў і 36 юніёраў.

І самае галоўнае. Дзякуючы выступу Шчарбакова Ягора і Тарасава Аляксея наша каманда ў раздзеле таолу выйграла Кубак Рэспублікі Беларусь, што ў агульным заліку дазволіла камандзе Віцебскай вобласці павезці Кубак па ўшу ў г. Віцебск.

**Л. Антонаў**
**паводле старонкі клуба "Нефрыт" Укантакце**

ЗДАРЭННЕ

# ДВА ДАЧНІКА ЗВЯРНУЛІСЯ Ў МІЛІЦЫЮ

**Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС 24 кастрычніка ў Гарадоцкі РАУС звярнулася двое пенсіянераў наконт рабавання іх дачных домікаў у Гарадоцкім раёне.**

Першай у Гарадоцкім РАУС 24 кастрычніка звярнулася пенсіянерка 1956 года нараджэння ў 10 гадзін 50 хвілін.Пенсіянерка паведаміла, што ў перыяд з 20 верасня па 24 кастрычніка неўсталяваны злачынец, разбіўшы шыбу, пракраўся ў яе дачны дом і здзейсніў крадзеж інструментаў, электрарухавіка, запчастак ад трактара, алюмініевага бітона, посуду і 2-х рулонаў металічнай сеткі. Нанесеная шкода ацэнена ў 402 рубля.

У гэты ж дзень праз тры гадзіны ў Гарадоцкі РАУС звярнуўся пенсіянер 1956 года нараджэння.Пацярпеўшы паведаміў, што ў перыяд з 7 па 24 кастрычніка неўсталяваны злачынец, сарваўшы навясны замак, пракраўся ў яго дачны дом і здзейсніў крадзеж дзверы, будаўнічых матэрыялаў і мэблі. Шкода нанесена ў памеры 960 рублёў.

Гарадоцкім раённым аддзелам Следчага камітэту па гэтых здарэннях узбуджаны крымінальныя справы па ч. 2 арт. 205 Крымінальнага кодэксу.

**Т. Гаражанка**

ГОД КУЛЬТУРЫ

# КЛУБНЫХ УСТАНОЎ ЗАКРЫТА МЕНШ

**З пачатку стагоддзя ў Беларусі закрыта больш, чым трэць клубных устаноў культуры. Яшчэ больш закрыта гэтых устаноў на Віцебшчыне, але ў Гарадоцкім раёне гэты паказчык не такі сумны.**

Нацыянальны статыстычны камітэт у Год культуры ў сваім зборніку «Рэгіёны Рэспублікі Беларусь» апублікаваў даныя аб становішчы сістэмы клубных устаноў у краіне. Статыстычныя даныя сведчаць, што на Беларусі ў 2000 годзе было 4654 клубных установы, а ў 2014 годзе іх засталося толькі 3054 або 65,6% ад наяўнасці на пачатак стагоддзя. Найбольшае скарачэнне клубных устаноў адбылося на Гродненшчыне, дзе засталося крыху больш паловы ад ранейшай колькасці — 53,9% і на Віцебшчыне — 62%, а найбольшая колькасць засталася ў Мінску — 74,2% і ў Брэсцкай вобласці — 72%.

На Віцебшчыне найбольшае скарачэнне месцаў папулярызацыі культуры адбылося ў Глыбоцкім, Пастаўскім, Сененскім, Талачынскім раёнах і г. Віцебску, дзе устаноў засталося не больш за палову. Пры гэтым у Талачынскім раёне іх скарачэнне адбылося з 42 устаноў да 19.

У Гарадоцкім раёне ў 2000 годзе было 40 клубных устаноў, а ў 2014 засталося 27 або 67,5% ад пачатку стагоддзя. Гэты паказчыквышэйнацыянальнага і абласнога ўзроўняў, але саступае ўзроўню Шумілінскага раёна. Тут на пачатку стагоддзя было 25 клубаў, потым іх колькасць узрасла да 26 і толькі ў 2014 годзе скарацілася да 22. Гэта 88% ад ўзроўня 2000 года.

**Л. Антонаў**

ЭКАНОМІКА

# СЕЛЬГАСПАДАРКА МІНУСУЕ ПА АСНОЎНЫХ ПАКАЗЧЫКАХ

**Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў дадзеныя аб сацыяльна эканамічным развіцці абласцей за восем месяцаў 2016 г., ў тым ліку і сельскай гаспадаркі. Віцебшчына мінусуе па вытворчасці прадукцыі, намалотах зерня, вытворчасці яіц, рэалізацыі малака, займаючы апошнія месцы ў краіне. Адносна добра справа з нарыхтоўкай кармоў.**

Паводле даных Нацстаткамітэта за восем месяцаўгэтагагодуВіцебшчына здолела вырабіць ў сельскай гаспадарцы толькі 88,9% прадукцыі да мінулагодняга ўзроўню. У абсалютных лічбах гэта 1036,3 млн. бел. рублёў пасля дэнамінацыі, што складае найменшы ўнёсак ў агульнарэспубліканскую вытворчасць — 12,3% — ніжэй Магілёўскай вобласці.

Камбайнёры вобласці намалацілі ў гэтым годзе толькі 783,9 тысячы тоны або 57,4% да мінулагодняга ўзроўня без уліку какурузы, пры ўраджайнасці 27,6 ц/га. Толькі па нарыхтоўцы кармоў для грамадскага пагалоўя Віцебшчына мае трэццяе месца ў краіне пры самым высокім паказчыку нарыхтоўцы кармоў на адну галаву жывёлы — 16,7 ц. кармавых адзінак.

У вытворчасці малака малочнатаварныя фермы Віцебшчыны засталіся на мінулагоднім узроўні, але рэалізацыя малака па вобласці самая нізкая ў краіне — толькі 89,3 % ад вытворчасці малака.

Між тым па вытворчасці яіц Віцебская вобласць трымала самае вялікае падзенне аб'ёму ў параўнанні з 2015 годам — да 90,4% і яшчэ толькі Магілёўская вобласць мінусавала па яйцах — 99,4%. Па рэалізацыі жывёлы і птушкі вобласці крыху дадала на 1,6% і за кошт абвалу на Гомельшчыне на 5,2% апынулася на перадапошнім месцы ў краіне з агульнай вагой рэалізацыі ў 124,9 тысячы тон.

Відавочна, што дадзеныя вынікі не падстава для радасці ці задавальнення або вялікага ўшанавання асобных перадавікоў. У народзе не здарма кажуць: «Малайца, сярод аўца, а супраць малайца і сам...»

**Л. Антонаў**

СЯМЕЙНЫ ГВАЛТ

# БУДУЦЬ СУДЗІЦЬ БАЦЬКУ, ЯКІ ЗБІЎ ПАЎТАРАГАДОВУЮ ДАЧКУ

**У Гарадку распачалі крымінальную справу ў дачыненні да бацькі, які збіў рамянём сваю паўтарагадовую дачку. Заяву ў міліцыю і органы апекі напісала цётка дзіцяці, якая выявіла на целе малой шматлікія сіняКі.**

Дваццацігадовая мама сцвярджае: дачка часта падае. З ровара, дзіцячай горкі і проста мяккім месцам на асфальт. Пракурор Гарадоцкага раёна Міхаіл Пацееў лічыць, што такім чынам маладая маці спрабуе выгарадзіць свайго 26-гадовага мужа:

- Гэта справа для раёна беспрэцэдэнтная. Дзіця быў дастаўлены ў бальніцу. Судова-медыцынская экспертыза паказала, што дзяўчынцы нанесены не менш за 11 траўміруючых удараў. Прычым, усе пашкоджанні яна атрымала ў адзін і той жа час. Ёсць і маленькаясведка-трохгадовая сястрычка пацярпелай, якая няхітра распавяла, што тую збіў менавіта тата. У ходзе следства будуць устаноўлены ўсе абставіны здарэння. Мужчына ўжо затрыманы.

Заўзяты «выхавальнік» з абвінавачваннем не згодны. Ён сцвярджае, што, застаўшыся з дзяўчынкай сам-насам, да дзіцяці не дакранаўся. Спроба адысці ад адказнасці цалкам зразумелая - па інкрымінаванаму артыкулу за катаванне заведама бездапаможнага чалавека бацьку пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

**Алёна Бегунова**
**"Беларусь сёння"**

НАШЫ КАЛЕДЖЫ

# ДВА ГАРАДОЦКІХ КАЛЕДЖЫ БУДУЦЬ АБ'ЯДНАНЫ

**Адбыўся арганізацыйны сход супрацоўнікаў Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага і Гарадоцкага прафесійна-тэхнічнагакаледжаўнаконтнепазбежнага аб'яднання ў адну адукацыйную ўстанову.**

Чуткі пра аб'яднанне двух гарадоцкіх каледжаў ва адну адукацыйную установу з'явіліся амаль дв агады таму. Але гэты працэс набыў пэўныя рысы толькі ў гэтым годзе. Віцебскі аблвыканкам звярнуўся да рэспубліканскіх уладаў наконт аптымізацыі сістэмы прафесійнага навучання ў Гарадку шляхам аб'яднання двух каледжаў ва адну адукацыйную установу.

На сустрэчы кіраўнік абласной сістэмы адукацыі Дзмітрый Хома паведаміў,штодзеляаптымізацыі выдаткаў на ўтрыманне сістэмы адукацыі неабходна аб'яднаць дзве адукацыйныя ўстановы ў адну. Рэальна працэс аб'яднання павінен пайсці з 1 студзеня 2017 года. Прыём навучэнцаў у наступным годзе плануецца захаваць у тым жа аб'ме, як і ў гэтым. Але гэта задзежыць ад намаганняў работнікаў аб'яднанай установы.

Да схода хадзілі чуткі, што будзе прадстаўлены новы кіраўнік аб'яднанай установы — экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў у Віцебскай акругі. Але на сходзе пра гэта гаворкі не вялося. Відавочна, што працэс «аптымізацыі» прывядзе найперш да скарачэння штату супрацоўнікаў з былых каледжаў, а ў будучым і прыёма навучэнцаў.

**Л. Антонаў**

НАША ЎЛАДА

# ОТДУБАСИЛ БОКСЕРСКУЮ ГРУШУ РЕФОРМ

**При этом президент ставит задачу торгового прорыва в Европу, но с экономикой вчерашнего дня миссия невыполнима.**

Очередной кадровый день Александра Лукашенко, 25 октября, не обошелся без явно больной для него темы реформ. Новым подходом к вопросу белорусский официальный лидер в этот слякотный день не блеснул.

Свежеиспеченных местных начальников президент напутствовал так: «Прекратите всякие разговоры по поводу некоего реформирования, еще чего-то. Надо работать с тем, что есть».

**Спор президента с самим собой**

Трудно вообразить, что тему реформ дерзнули инициировать пришедшие на утверждение номенклатурные товарищи не самого высокого звена. Ну не камикадзе же они. Эти люди в знаменательную для своей карьеры минуту обычно вытягиваются во фрунт и едят глазами первое лицо. Они прекрасно знают, какое раздражение у главы государства может вызвать уже само словечко «реформы». Так что Лукашенко ведет давний спор с самим собой.

Да, тему раз за разом подбрасывают внешние кредиторы и прогрессисты из окружения, которым это позволяет ранг (или которых вынуждает отчаянное положение, скажем, на переговорах с МВФ), но решает-то у нас все вопросы известно кто.

Его же концепция, вновь прозвучавшая в кадровый день, исключительно незамысловата: «А реформирование — это совершенствование. Видите, что что-то не так, — совершенствуйте, делайте, но ничего не ломайте».

**Послов делают коммивояжерами**

При этом вновь назначенных послов в Германии и Румынии Лукашенко напутствовал в том духе, что «отвечать перед своей страной придется за конкретный товарооборот». Более того, в торговых отношениях с Германией и другими странами велено «осуществлять прорыв, используя все факторы и методы работы».

Но какие методы у дипломата? Он может в лучшем случае проявить талант коммивояжера (хотя, выбирая стезю, вряд ли мечтал об этом амплуа), однако не в силах улучшить потребительские качества товара или снизить его себестоимость. Проблема же многих видов белорусской продукции в том, что она становится неконкурентоспособной. Как раз-таки из-за нереформированности предприятий.

Да, еще мы гоним за рубеж калий, нефтепродукты и даже немножко своей сырой нефти в ту же Германию. Но этот товар сильно подешевел. И это одна из причин, по которым наш товарооборот с Евросоюзом падает. За январь — июль этого года показатель, по данным Белстата, сократился на 23,5%. При этом наш экспорт в пределы ЕС упал на 31,9% — сильнее, чем импорт оттуда.

Товарооборот же, в частности, с Германией за январь — август составил 1,4 млрд долларов, что на 24,6% ниже показателя за аналогичный период 2015 года. И этот минус мы имеем, заметьте, в условиях, когда Евросоюз отменил санкции, а немцы вообще демонстрируют громадные ресурсы доброй воли в отношениях с Беларусью.

Но при этом Ангела Меркель, как вы понимаете, не может приказать немецкому бизнесу закупать холодильники «Атлант» или гомельские комбайны.

**Привязка к России только усиливается**

Что же мы наблюдаем в итоге? С одной стороны, министр иностранных дел Владимир Макей недавно в Варшаве заявил, что Беларусь хочет ослабить экономическую зависимость от России. С другой стороны, как отмечает центр социально-экономических исследований CASE Belarus, доля России во внешней торговле нашей страны продолжает расти.

За первое полугодие этот показатель вырос с 38,9% до 43,2%. А это означает, по мнению экспертов, что растут риски «в части сохранения уязвимости экономики к внешним шокам, в частности к ситуации в экономике России». Стоит также отметить, что трещит по швам план диверсифицировать наш экспорт к 2020 году по принципу трех третей (чтобы он приходился поровну на ЕАЭС, ЕС и остальной мир).

Таким образом, белорусский руководитель оказался в ловушке собственного консерватизма. И неплохо бы развить экономическую многовекторность (без которой и политическая будет шаткой), и в то же время боязно ломать модель, основанную на привязке к ресурсам восточной соседки.

Фобии эти остаются и даже крепнут притом, что надежды на чудотворный эффект евразийской интеграции (вот пристанимся к российским ресурсам — и к черту реформы) утрачены. Недавно Лукашенко даже пригрозил «оптимизировать» (читай: минимизировать) участие Беларуси в этом амбициозном проекте Владимира Путина.

Но на деле подобные заявления, дипломатия скандала (которую Минск широко использовал во время недавней нефтегазовой войны) — лишь способ выбить из Москвы хоть что-то.

**Продолжают отсекать хвост частями**

Оказались несостоятельными и надежды перенаправить потоки отечественного неликвида на страны так называемой дальней дуги. Хотя президентский «боинг» исправно курсирует по этой дуге, подписываются в экзотических столицах декларации, звучат округленные до красивых миллиардов планы скачка двустороннего товарооборота — через какое-то время, как правило, выясняется, что прожекты были маниловщиной.

Загвоздка в том, что и у жителей далекой дуги губа не дура. Там тоже хотят покупать качественный товар по умеренной цене. И белорусов в этом плане на многих рынках обставляют, скажем, те же китайцы.

Некогда они у нас слизывали технологии, а сейчас уже Беларусь завалена их компьютерами, мобильниками, прочей электроникой. И наша гордая страна вынуждена была именно с китайской помощью создавать свое ракетное оружие.

В общем, уже по многим направлениям мы за китайцами только пыль глотаем. Вот вам эффект того, что для тамошних вождей при всех их коммунистических заморочках слово «реформы» не было ругательным.

Другое дело, что хотя Лукашенко и дубасит раз за разом боксерскую грушу реформ, показывая таким образом заботу о народе, процесс де-факто потихонечку идет. Нацбанк тихой сапой установил жесткую монетарную политику (что ударило по заработкам), и вообще без лишнего шума делаются достаточно серьезные уступки тому же МВФ.

Экономические императивы давят, властям некуда деваться. Но пока они куда больше преуспели по части затягивания поясов населения, нежели по части стратегии развития.

От того же, что здешние державные мужи отсекают хвост реформ маленькими частями, народу, о котором так пекутся, придется лишь дольше мучиться

**Александр Класковский**
**naviny.by**




ПРА РАСЕЮ

# ІМПЭРСКІ РЭНЭСАНС

**Некалькі фактаў з інфармацыйнай стужкі. У горадзе Арле пастаўлены помнік Івану Жахліваму (Грознаму). Гэта на дадатак да помнікаў Сталіну, якіх у сучаснай Расеі — 36. Колькасьць бюстаў Сталіна не паддаецца дакладнаму падліку.**

Маскоўскія кінатэатры не захацелі паказваць фільм пра Паўночную Карэю. Мастацкі кіраўнік маскоўскага тэатру «Сатырыкон» Канстанцін Райкін выступіў з рэзкай прамовай на зьезьдзе Саюзу тэатральных дзеячаў Расеі. Ён скрытыкаваў цэнзуру, «сталінскія ўстановы» Міністэрства культуры, закрыцьцё спэктакляў і выстаў пад прыкрыцьцём патрыятызму і маральнасьці.

Міністэрства замежных спраў Вугоршчыны выклікала пасла Расеі ў Будапэшце, пасьля таго як па РТР тэлевядучы Дзьмітры Кісялёў збэсьціў рэвалюцыю 1956 году, спрабаваў ацаніць яе як змову заходніх спэцслужбаў, вынік дзейнасьці дывэрсійных атрадаў нацыстаў, якія паўцякалі пасьля вайны за мяжу.

У сфэры афіцыйнага ідэалягічнага канцэпту Расея ня проста вяртаецца ў савецкія часы. Бо ў гісторыі СССР былі розныя пэрыяды: хрушчоўскі, брэжнеўскі, гарбачоўскі. Дык вось у некаторых аспэктах Расея адкацілася ў эпоху сталінізму. Вяртаецца культ Генэралісімуса. Поўнасьцю апраўдваецца замежная палітыка 1930–1950-х гадоў. Пакт Молатава-Рыбэнтропа падаецца цалкам у інтэрпрэтацыі сталінскіх часоў. Хіба толькі засталося зрабіць апошні крок і абвясьціць, што ніякіх рэпрэсіяў і тэрору супраць уласнага народу не было, гэта ўсё выдумкі амэрыканскіх фальсыфікатараў і ворагаў Расеі.

Цікавы нюанс. Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 году ў афіцыйным расейскім дыскурсе трактуецца хутчэй адмоўна, чым станоўча. У адрозьненьне ад Беларусі, дзе 7 лістапада паранейшаму лічыцца афіцыйным сьвятам. Кожны год у гэты дзень Лукашэнка віншуе беларускі народ з чарговай гадавінай падзеі, якая, паводле афіцыйнай трактоўкі, рэалізавала адвечную мару беларусаў аб сацыяльнай справядлівасьці.

Дык вось у Расеі гэтая дата не сьвяткуецца. Бо трохі дзіўна было б казаць пра ідэю сацыяльнай справядлівасьці ў краіне, дзе разрыў паміж даходамі кучкі алігархаў і абсалютнай большасьці народу такі вялікі, як мала дзе ў сьвеце.

Таксама на такі падыход да гісторыі ўплывае жывёльны страх пуцінскага рэжыму перад рэвалюцыяй у любых яе праявах. Гэта выяўляецца на ўзроўні інстынкту. Адсюль і непрызнаньне падзей у Вугоршчыне 1956 году народнай рэвалюцыяй. Агрэсія супраць Украіны стала, апроч іншага, і спантаннай рэакцыяй Крамля на кіеўскі Майдан і «рэвалюцыю годнасьці».

Невыпадкова зьявілася інфармацыя, штосёньня рэалізуецца праект па ацэнцы «пратэстнага патэнцыялу» студэнтаў і пэдагагічных калектываў расейскіх ВНУ.

Але галоўны трэнд цяперашняй расейскай палітыкі — вялікадзяржаўная ідэя велічы Расеі, адраджэньне імпэрскай ідэалёгіі. А Кастрычніцкая рэвалюцыя разбурыла вялікую імпэрыю.

Але, зь іншага боку, савецкі пэрыяд цалкам упісваецца ў гэты новы-стары ідэалягічны канструкт. Усё пачалося зь вяртаньня савецкага гімну. Але ў такім выпадку ніяк не абысьціся без рэабілітацыі Сталіна і сталінізму. Хоць «правадыр народаў» — непасрэдная параджэньне і спадкаемец ідэалёгіі Кастрычніцкай рэвалюцыі, але адначасова ён ідэальна ўпісваецца ў ідэю велічы Расеі. Культ перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне непазьбежна вядзе да адраджэньня культу «вялікага палкаводца».

І гэтая новая імпэрская ідэалёгія лягічна вядзе і будзе далей весьці да пэрманэнтных канфліктаў з суседзямі. Бо, напрыклад, паўстаньне ў Будапэшце ў 1956 годзе было адным зь першых удараў па савецкай імпэрыі. Потым была «Праская вясна», польская «Салідарнасьць». Таму і такая ацэнка гэтай падзеі Дзьмітрыем Кісялёвым, і адпаведная рэакцыя МЗС Вугоршчыны.

Не выпадкова Пуцін называе распад СССР геапалітычнай катастрофай. Думаю, наступным крокам ідэалёгіі імпэрскага рэваншу стане ацэнка Белавескіх пагадненьняў 1991 году як здрады, дзяржаўнага перавароту, а яго ных удзельнікаў — як дзяржаўных злачынцаў.

Два дзясяткі гадоў таму ў Беларусі выпускалася настойка з назвай «Белавеская горкая». Калі аднавіць яе вытворчасьць, то яна можа стаць вельмі папулярнай у Расеі, галоўным беларускім экспартным таварам. Хоць якая карысьць.

**Валер Карбалевіч**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ЗМЕНЫ ДА ЛЕПШАГА

**Рух «За Свабоду» небеспадстаўна прэтэндуе на ролю галоўнай праеўрапейскай сілы ў Беларусі. Мы дэкларуем зразумелыя і блізкія прагрэсіўнай частцы грамадства ідэі Свабоды, Незалежнасці і Дэмакратыі. Абапіраемся на падтрымку усіх, каму неабыякавы лёс Беларусі, хто разумее, што пазітыўная будучыня можа быць толькі ў дэмакратычнай краіне, якая зрабіла еўрапейскі выбар.**

Падчас справаздачна-выбарчай канферэнцыі, якая прайшла 16 кастрычніка, Рух яшчэ раз красамоўна даказаў, што з'яўляецца дэмакратычнай арганізацыяй, у якой улічваецца кожны голас. Відэа таго, як падлічваліся галасы на выбарах старшыні, мяркую, ЦВК можа рэкамендаваць у якасці практычнага ўзору для беларускіх выбарчых камісій усіх узроўняў.

Я хачу падзякаваць усім, хто прагаласаваў за мяне, паверыў у мяне і маю праграму. Таксама хачу выказаць словы павагі і ўдзячнасці шматгадоваму лідару нашай арганізацыі Аляксандру Мілінкевічу за ягоны маральны аўтарытэт, адданасць беларушчыне і нязменную праеўрапейскую пазіцыю.

Рух «За Свабоду» — арганізацыя, дзе кожны, хто гэтага заслугоўвае, можа стаць аўтарытэтным лідэрам, прэтэндаваць на любую ролю і пасаду. Мы ствараем умовы для асабістага росту і пашырэння вядомасці новых асобаў, як на нацыянальным, так і рэгіянальным узроўні.

Мы можам мець розныя падыходы да канкрэтных тактычных крокаў і рашэнняў, але, безумоўна, адзіныя ў стратэгіі дасягнення галоўнай мэты — дэмакратыі і еўрапейскага выбара Беларусі.

Менавіта агульныя каштоўнасці і стратэгія дзеянняў для нас заўсёды былі вышэй за асабістыя амбіцыі і палітычныя інтарэсы асобных людзей. Я магу гарантаваць, што гэты прынцып застаецца галоўным пасля майго абрання старшынём руху «За Свабоду».

Таму яшчэ раз запрашаю усіх сяброў і калег, у тым ліку тых, хто на момант выбарчай кампаніі сталі апанентамі, з новымі сіламі і энергіяй вярнуцца да паўсядзённай стваральнай працы.

З іншага боку, я разумею, што, як у свой час Уінстан Чэрчыль, не магу гарантаваць нічога акрамя цяжкай працы, слёзаў і поту. Бо наша канчатковая мэта нялёгкая — перамога над аўтарытарным рэжымам, пабудова дэмакратычнай Беларусі. Але, як і Уінстан Чэрчыль, я безумоўна веру ў гэтую канчатковую перамогу. Інакш ня варта было б і працягваць нашую барацьбу. І сам, асабіста, гатовы зрабіць усё магчымае і немагчымае, бо для мяне гэта справа жыцця.

**Юрась Губарэвіч**
**старшыня Руху "За Свабоду"**
**naviny.by**

НАША СПАДЧЫНА

# «ЧАС АБВЕСЦІЦЬ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ»

**Перадача «Справа прынцыпу» на тэлеканале АНТ 24 кастрычніка была прысвечаная тэме нацыянальнай ідэі. Ці патрэбная яна Беларусі? У чым яна заключаецца? І дзе яе шукаць?**

Сярод гасцей перадачы былі старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў і палітолаг Валерый Карбалевіч.

«Я думаю, што прыспеў час, калі дзеля агульнанацыянальнага прымірэння трэба бел-чырвона-белы сцяг абвясціць нацыянальным», — сказаў Карбалевіч.

А што рабіць з дзяржаўным сцягам, спытаўся вядучы Вадзім Гігін.

«Два сцягі — дзяржаўны і нацыянальны», — адказаў Карбалевіч.

Амаль адразу слова ўзяў Алег Трусаў. Ён лічыць, што з бел-чырвона-белым сцягам трэба зрабіць як з Пагоняй — абвесціць яе гісторыка-культурнай каштоўнасцю. «Тым больш, што нашаму бел-чырвона-беламу сцягу налета будзе 100 гадоў», — лічыць Трусаў.

«Заўсёды былі нейкія акупацыйныя рэжымы на тэрыторыі Беларусі і былі калабаранты, якія супрацоўнічалі з іншаземнымі спецслужбамі і арміямі. Для мяне гэта сцяг здраднікаў. Хто яго выкарыстоўваў у ЗША пасля вайны? Тыя, хто працаваў на ЦРУ. Гэта ж праўда», — сказаў філосаф Аляксей Дзермант.

«А Уласаў пад якім сцягам ваяваў?» — рэмарка ад Алега Трусава.

«Гэта ўжо расійская дыскусія», — адказаў Дзермант.

Таксама госцем у студыі быў гісторык, адзін з лідараў заходнерусісцкага руху ў Беларусі Леў Крыштаповіч.

Ён сказаў: «Ніякага расколу сярод народу не існуе, ён існуе сярод інтэлігенцыі. Наша інтэлігенцыя неаднародная ў якім сэнсе? Ёсць інтэлігенцыя беларуская і якая падстройваецца пад беларускую. Я яе яшчэ назаву ўмоўна „польска-шляхецкая". Гэтыя дзве групы і змагаюцца між сабой. І частка польска-шляхецкай інтэлігенцыі навязвае нам бел-чырвона-белы сцяг. А навошта навязвае? Не для таго, каб зрабіць гісторыка-культурнай каштоўнасцю, а каб падмяніць нашу ўласную беларускую гісторыю чужой».

Пісьменнік Георгій Марчук падтрымаў Алега Трусава, што бел-чырвона-беламу сцягу сапраўды прыспеў час надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. «Няхай сцяг жыве, калі ён быў у гісторыі. Мы ж не можам перакрэсліць гісторыю», — сказаў прадстаўнік уладнага Саюза пісьменнікаў.

**Зміцер Панкавец**
**Наша Ніва**

ТРАГІЧНАЕ ЗДАРЭННЕ

# «ИНОГДА ОН ПОДОЗРИТЕЛЬНО ШУТИЛ, ЧТО УБИЛ БЫ КОГО-НИБУДЬ»

**Что говорят о парне, которого подозревают в атаке торгового центра с бензопилой его бывшие одноклассники и знакомые?**

Одноклассники подозреваемого не верят, что он способен на убийство

На фотографиях из торгового центра напавшего на людей парня с бензопилой и топором узнали его бывшие одноклассники. Ребята не могут принять случившееся и говорят, что ни за что бы не поверили, что он способен на такое, сообщает Onliner.by.

В подписи к фотографии в школьном альбоме Влада характеризуют как очень загадочного и замкнутого человека.

Сергей (имя изменено) учился с ним два года перед поступлением. По его словам, Влад не вызывал никаких подозрений, был скромным нормальным парнем.

— Он был не очень общительным, но ничего странного в нем не было. Учился он хорошо, ни с кем не конфликтовал, был обычным парнем. Дружил с одной из наших одноклассниц, после уроков всегда домой шел. Вроде ничем не занимался, — рассказывает Сергей.

В 27-й школе информацию о том, что парень окончил именно это учреждение образования, опровергли.

— Не знаю, откуда у вас такая информация. У нас такой не учился, — сообщила исполняющая обязанности директора.

Знакомая Влада Казакевича: «Мама его очень любит, всегда за ним бегает»

Еврорадио вышло на хорошую знакомую Влада Казакевича, который атаковал ТЦ "Европа" с бензопилой и подозревается в убийстве.

По словам девушки, которая знает его два года, человек он странный: «не любит людей, не любит себя».

— Ему не нравится его внешность. Иногда он подозрительно шутил. О том, что убил бы кого-нибудь, что не любит людей. Но агрессии ни к кому не проявлял, конфликтов с ним не было, — рассказала знакомая Казакевича в интервью Еврорадио. — Он был очень замкнутым человеком и не имел друзей. Часто намеренно так шутил напоказ. Знаю, что в школу №27 он носил с собой перцовые спреи. Для чего, я не знаю. Для безопасности или наоборот. Чтобы он их использовал, я не слышала. Но перед одноклассниками демонстрировал напоказ.

Со слов знакомой Влада Казакевича, его мама летает в Германию, потому что у них там дом.

— Влад тоже, случалось, летал в Германию. Мама в основном, насколько мне известно, живет вместе с ним. Отец живет отдельно в поселке. Влад к нему иногда приезжал и помогал по хозяйству. Чехол у него тоже появился неслучайно. Он играл на акустической гитаре.

Как рассказала девушка, мама Влада «его очень любит, всегда за ним бегает».

— Она верующая, а он атеист. Но в целом у них отношения вроде были нормальные. Мать, кажется, нигде не работала, где они брали деньги, я не знаю. Влад мог сам себя обеспечивать. Я не знаю, правда, как он зарабатывал. Но говорил, что сам оплачивал репетиторов перед поступлением.

Что еще известно о подозреваемом в убийстве в ТЦ «Европа»

По данным предварительного расследования, нападавший молодой человек в 2014 году проходил лечение в психоневрологическом диспансере.

В правоохранительных органах рассказали, что решение о совершении массового убийства с особой жестокостью задержанный принял давно. Свою вину молодой человек признал. Мотивом преступления, по его словам, послужило разочарование в самом себе, отвращение к человечеству, депрессивное настроение.

Своей целью нападавший ставил убийство как можно большего числа людей и желал сам быть убитым при задержании.

Влад Казакевич был студентом первого курса университета МИТСО, но 3 октября его официально отчислили.

17-летний молодой человек — из состоятельной семьи. Он имеет трехкомнатную квартиру в Минске и живет отдельно от родителей.

**gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.10.2016 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.